---

## Зьмест



---

Рэдколегія: Г. БРЫГНЕВІЧ, С. ЖУРАЎСКІ, М. МАМЧЫЦ, А. ПЯКАРЧЫК, А. ЯКІМОВІЧ.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 20 КАСТРЫЧНІК 1927 г.**




Дзеці працоўнага народу ўсіх краін і ўсіх нацый, хай гулка і грозна нясецца ад краю да краю праз межы і галовы буржуяў наш братэрскі салют у дні вялікага сьвята!—Мы за СУСЬВЕТНЫ КАСТРЫЧНІК!

# Кастрычнік на Беларусі

Лютаўскую рэволюцыю 1917 г. Беларусь сустракала ў вельмі цяжкіх умовах. У полымі імпэрыялістычнай вайны былі зьнішчаны дзесяткі гарадоў, мястэчак і вёсак. Больш мільёну людзей уцякала ў розныя канцы Расіі і знаходзілася там у жудасным становішчы.

Вайна ня толькі руйнавала народную гаспадарку, але і зьнішчала рэволюцыйны рух на Беларусі. Яна прывяла да поўнага заняпаду магутнасьць рабочае клясы, да распыленьня яе сіл і ліквідаваньня мясцовых рабочых рэволюцыйных організацый. На месца іх вырастаюць новыя рэволюцыйныя сілы з арміі, якая занімала амаль усю Беларусь, бо якраз тут праходзіў заходні фронт. Яшчэ перад Лютаўскай рэволюцыяй, па пачыну бальшавікоў, т. т. Фрунзэ, Любімава і іншых, тут зьбіраліся сходы, прывозілася ў Менск, Несьвіж, Лунінец і іншыя мясцовасьці падпольная літаратура.

Калі пачалася Лютаўская рэволюцыя, бальшавікі сталі на чале рэволюцыйнай хвалі: яны разганяюць паліцыю і організуюць міліцыю, начальнікам якой у Менску быў т. Фрунзэ (Міхайлаў).

5-га сакавіка бальшавікі організуюць Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў у Менску. Першым старшынёю Менскага Савету быў абраны бальшавік т. Пазэрн.

**Менскі Савет** быў першай легальнай масавай організацыяй у нашым краі і на заходнім фронце, які пад кіраўніцтвам бальшавікоў вёў рабочых і сялян Беларусі да Кастрычнікавай рэволюцыі.

На другі дзень пасьля організацыі Савету—6 сакавіка, працоўныя г. Менску і салдаты арміі прымалі ўдзел у дэмонстрацыі з прычыны перамогі рэволюцыі. У цэнтры гэтай дэмонстрацыі стаяў Менскі Савет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў. Такія-ж дэмонстрацыі адбываліся ў вёсках і на фронце. Хутка Менскі Савет распачаў выдаваць сваю газэту «Известия», у якой ён стаў заклікаць рабочых і сялян да змаганьня за канчатковую перамогу рэволюцыі.

У першыя дні Лютаўскай Рэволюцыі ў некаторых гарадох Беларусі існавалі аб'яднаныя організацыі соцыялдэмократаў бальшавікоў і меншавікоў. Па прыезьдзе Леніна ў Расію, у красавіку месяцы, якім быў выкінуты лёзунг «Уся ўлада Саветам»,—Менскія бальшавікі парвалі сувязь з меншавікамі і ўтварылі сваю газэту «Звезда». Бальшавікі тады казалі, што рэволюцыя перамагла, але канчаткова яна яшчэ не запанавала, яна толькі зьнішчыла царскае самаўладзтва, але не зламала яшчэ ўсіх сваіх ворагаў, яна яшчэ не расправілася з буржуазіяй. У гэтым напрамку бальшавіцкая організацыя працягвае сваю працу далей. З маленькай групы бальшавікоў яна вырастае ў моцную організацыю, **якая зрабілася кіруючым цэнтрам рэволюцыі ў Менску і на Заходнім Фронце.**

Ворагі бальшавізму на чале з Керанскім, жадаючы спыніць рост бальшавізму, прымаюць шэраг рашучых мерапрыемстваў супроць апошніх: яны зачыняюць газэту «Зьвязда», арыштоўваюць шэраг рабочых, сялян і салдат. З прычыны зачыненьня «Зьвязды» т. Фрунзэ паслаў Цэнтральнаму Ураду свой рашучы протэст, але гэта не памагло. Тады бальшавікі замест «Зьвязды» пачалі выдаваць газэту «Молот», якая па сутнасьці працягвала справу, распачатую «Зьвяздой». «Молот» яшчэ больш заклікаў рабочых, салдат




*З полымя вялікай завірухі, з-пад куль, штыкоў і знарадаў буржуазіі—здабыў рабочы разам з салдатам і селянінам свой* **Чырвоны Кастрычнік.**

і сялян да барацьбы за ўладу Саветаў, за мір, за зямлю, за контроль над вытворчасьцю. Ён таксама быў зачынены, і замест яго Менскі Камітэт бальшавікоў пачаў выдаваць газэту «Буревестник».

Уплыў бальшавікоў на масы расьце па меры набліжэньня Кастрычніка. У Віцебску, Гомелі, Магілеве і іншых гарадох і вёсках Беларусі ўзьнікаюць бальшавіцкія оргaнізацыі, якія змагаюцца за Савецкую ўладу, за зьнішчэзьне прыватнай уласнасьці на зямлю, на фабрыкі і заводы і за мір. **Як ні стараліся ворагі рабочых і сялян задушыць бальшавізм—ім гэта не ўдалося. 25-га кастрычніка пролетарыят захапіў уладу ў свае рукі, скінуў часовы ўрад і ўтварыў першую ў сьвеце Рэспубліку рабочых і сялян.** У нас на Беларусі буржуазія і яе najміты дробна-буржуазныя партыі: меншавікоў, эсэраў, «Бунд», «Беларуская Социялістычная Грамада» і іншыя, выступілі супроць рэволюцыі, пагэтаму ў Менску і іншых гарадох на некаторы час рэволюцыя затрымалася. Толькі **пры дапамозе бронь-цягніка 1-га лістапада (па старому стылю) у нас была абвешчана Савецкая ўлада.**



*У цяжкой і маруднай працы нараждаецца новае социялістычнае жыцьцё.*



*Мы* **самі** *пабудуем сабе фабрыкі і заводы; пролетарыят пераможа з гонарам усе цяжкасьці і на гаспадарчым фронце, як перамог з аружжам у руках у кастрычніку 1917 году.*

# Як піонэры і вучні праводзяць сьвята

**5-га лістапада ўсе дзеці ідуць у кіно, клюбы, тэатры, дзе дармова даюцца для іх спэцыяльныя пастаноўкі.**

**6-га лістапада ўсе піонэры на вечарох ў сваіх атрадах. У вёсцы гэтыя вечары наладжваюцца атрадамі разам са школамі, у гарадох—асобна ад школ.**

**7-га лістапада ўсе дзеці разам з дарослымі на дэмонстрацыях. Вечароў і гуляньняў у гэты дзень няма.**

**8-га лістапада адбываюцца вечары выключна ў школах—у гарадох. Вясковыя школы сваіх асобных вечароў ня робяць.**

# Перамога Рэволюцыі

(Адрыўкі з кніжкі амэрыканскага журналістага **Джон Рыда «10 дней, которые потрясли мир»**)

Увечары 16-га лістапада мне давялося бачыць, як 2.000 чырвонагвардыйцаў праходзілі па Загароднаму проспэкту. Наперадзе ішоў оркестр музыкі, які іграў Марсэльезу. Як дзіўна супадала з настроем гэта музыка! Крывавачырвоныя сьцягі ўзьвіваліся над цёмнымі шэрагамі рабочых, якія віталі сваіх братоў, абаронцаў чырвонага Петраграду, што зьвярталіся з месца перамогі. У поўнай цемры праходзілі яны і высокія штыкі мерна пакачваліся. Ішлі яны па ледзь-ледзь асьветленых вуліцах, коўзкіх ад гразі, скрозь натоўпу маўклівай буржуазіі, што з агідай і з баязьню глядзела на іх.

Супроць іх былі ўсе: гандляры, спэкулянты, паны, афіцэры, настаўнікі, студэнты, людзі вольных профэсій, крамнікі, служачыя... Другія соцыялістычныя партыі адносіліся да бальшавікоў з яўнай варожасьцю. На баку Саветаў былі толькі простыя рабочыя, матросы, усе яшчэ не дэмобілізаваныя салдаты, безьзямельнае сялянства і вельмі мала інтэлігэнцыі.

У адказ на паведамленьне аб перамозе над Керанскім, з усіх далёкіх куткоў вялікай Расіі, дзе на вуліцах адбываліся жорсткія бойкі, адгукнулася, як гром, рэха пролетарскай перамогі: з Саратава, Ноўгарада, Вініцы, дзе ліліся рэчкі крыві, з Масквы, дзе бальшавікі накіравалі артылерыю супроць астатняга месца ўмацаваньня буржуазіі—Крэмлю.

У той-жа дзень белагвардыйцы і юнкеры ў Крэмлі здаліся, і ім было дазволена бесперашкодна выйсьці адтуль. Пасьля гэтага быў заключаны мірны дагавор:

1) Камітэт Грамадзкай Небясьпекі*) спыняе сваё існаваньне.

2) Белая гвардыя здае сваю зброю і распускаецца. Афіцэры маюць права пакінуць пры сабе свае шашкі і дадзеную ім па закону зброю.

Вайсковым школам пакідаецца неабходная для навучаньня зброя. Юнкерам Вайскова-Рэволюцыйны Камітэт дакляруе захаваць свабоду.

3) Разброеньне, прадугледжанае § 2 праводзіцца спэцыяльнай камісіяй з прадстаўнікоў усіх організацый, якія прымалі ўдзел у мірных перамаўленьнях.

4) З моманту падпісаньня гэтага дагавору зараз-жа аддаецца загад аб спыненьні стралянiны і ўсіх вайсковых дзеяньняў, пры гэтым прымаюцца меры да поўнага выкананьня пастаноў.

5) Пры падпісаньні дагавору ўсе палонныя, захопленыя абодвымі бакамі, вызваляюцца.

Вось ужо 2 дні, як бальшавікі занялі горад. Напалоханыя жыхары пакінулі сутарэньні, каб адшукаць загінуўшых. З вуліц былі зьняты барыкады. Аднак-жа заместа таго, каб зьменшыцца, апавяданьні аб разбурэньні Масквы ўсё расьлі і расьлі. Пад уплывам гэтых жахлівых вестак мы парашылі накіравацца туды.

У працягу астатняга тыдню Петраградзкі Вайскова-Рэволюцыйны Камітэт з дапамогай чыгуначнікаў захапіў Мікалаеўскую чыгунку і накіроўваў адзін за другім перапоўненыя матросамі і чырвонагвардыйцамі вайсковыя цягнікі на паўднёвы-усход.

Мы атрымалі з Смольнага дазвол, без чаго ніхто ня мог пакінуць Ленінград.

*) Супроцьрэволюцыйная організацыя.

На станцыі, калі быў пададзены цягнік, натоўп салдат у парваных шынэлях, з вялікімі мяшкамі харчоў за плячыма, кінуўся да вагонаў, выламваючы дзьверы, разьбіваючы вокны, займаючы ўсе праходы, пляцоўкі і нават стрэхі вагонаў. Трое з нас сяк-так працісьнуліся ў купэ *), але зараз-жа ўсьлед за намі туды ўвайшло 20 чалавек салдат. З прычыны таго, што купэ магло зьмясьціць толькі 4, мы пачалі спрачацца з імі і ўгаварваць. Кандуктар таксама далучыўся да нас, але салдаты весела сьмяяліся: якая ім справа да выгады некалькіх буржуяў!

Тады мы паказалі ім нашы дазволы з Смольнага; раптам яны перамянілі свае адносіны да нас.



*У дні кастрычніка.* Чырвоная артылерыя ля будынку Маскоўск. савета.

— Стойце, таварышы,—сказаў адзін з іх,—гэта нашы амэрыканскія таварышы. Яны прыехалі да нас за шмат тысяч вёрст, каб убачыць нашу раволюцыю, і яны, зразумела, добра стаміліся.

З сяброўскімі прабачэньнямі салдаты пакінулі наша купэ. Праз некалькі хвілін мы пачулі, як яны ломяцца ў дзьверы суседняга купэ, якое было занята двума добра адзетамі тоўстапузымі рускімі, якія далі хабар кандуктару і заперлі дзьверы.

Каля 7 гадзін увечары бясконца доўгі цягнік адышоў ад станцыі. Цягнік ішоў вельмі памалу і часта спыняўся, ня мог цягнуць. Салдаты на стрэхах стукалі ботамі і сьпявалі свае сумныя сялянскія песьні. У калідорах была такая цесната, што прайсьці тудою было зусім нельга. Тут усю ноч адбываліся самыя гарачыя спрэчкі на п о л і т ы ч н ы я тэмы. Іншы раз праходзіў сюдою кандуктор, патрабуючы па прывычцы білеты ад пасажыраў. Апрача нас, здаецца, такіх білетаў ніхто ня меў, і кандуктар, абышоўшы без карысьці ўсіх, безнадзейна махнуў рукой, вышаў і больш не зьяўляўся. Паветра было сьціснутае ад накуранага дыму і цяжкага паху. Каб ня выбітыя вокны, мы, напэўна, захлынуліся-б у працягу ночы.

Раніцой мы ехалі па сьнежным полі. Мы на шмат часу спазьніліся.

...На вакзале ў Маскве было пуста. Мы зайшлі да камісара для таго, каб уладзіць справу з білетамі. Гэта быў сумны юнак з пагонамі паручыка. Калі мы паказалі яму пропускі з Смольнага, ён загарачыўся і абвясьціў нам, што ён не бальшавік, а прадстаўляе сабой Камітэт Грамадзкай Небясьпекі. Гэта было вельмі цікава і характэрна—у агульнай мітусяніне, без якой нельга было абыйсьціся пры захопе гораду, галоўная чыгуначная станцыя была забытай пераможцамі.

Ля вакзалу ня было ніводнага рамізьніка (звозчыка), аднак-жа, прайшоўшы некалькі кварталаў, мы ўбачылі рамізьніка: ён, седзячы, спаў на маленькіх санках.

— Колькі да цэнтру гораду?—запыталіся мы.

Ён пачухаў патыліцу.

— Наўрад, барын, ці ўдасца знайсьці вам пакой у гасьцініцы,—сказаў ён.—Але я вас усё-ж такі магу завезьці за сотню рублёў.

*) Частка вагона з пэўным лікам месц для пасажыраў.

Да рэволюцыі такое падарожжа каштавала 2 рублі. Мы пачалі яго ўгаварваць, але ён толькі паціснуў плячыма.

— Трэба мець шмат адвагі, каб езьдзіць цяперашнім часам на санках,—сказаў ён.

Мы дагаварыліся за 50 рублёў.

Калі мы ехалі па пустых, дрэнна-асьветленых вуліцах, ён расказаў нам аб сваіх здарэньнях у працягу 6-дзённых боек.

— Стаю я на рагу, чакаю пасажыра,—казаў ён нам.—І раптам, адразу: пах, каля мяне узрываецца знарад. Пасьля то там, то тут... Тра-та-та кулямёт сыпе... Я ўгалёп... А гэтыя чэрці нема равуць вакол мяне... Ну, вось, даехаў я да спакойнай вулічкі, спыніўся і задрамаў. Раптам ізноў «пах», і зноў кулямёт тра-та-та... Чэрці, як ёсьць чэрці!..

У цэнтры гораду вуліцы, засыпаныя сьнегам, былі спакойнымі, і гэта быў супакой ачуньваючага. Гарэла толькі некалькі вялікіх электрычных ліхтароў ды мільгалі па тротуарах людзі, якія спазьніліся сваячасова зьвярнуцца да хаты. Дзьмуў халодны, тостры вецер.

Мы ўвайшлі ў першую, якая папалася нам, гасьціньніцу.

— У нас ёсьць некалькі пакояў, але ўсе вокны ў іх выбіты...

Мы заяжджалі то ў адну, то ў другую гасьціньніцу. Усе яны былі або перапоўненымі, або гаспадары іх былі так напалоханы, што абмяжоўваліся кароткімі заявамі:

— Няма, няма пакою!

Пасьля, як чужаземцам, нам удалося спыніцца ў аднэй гасьцінніцы «Національ». Вайскова-Рэволюцыйны Камітэт дакляраваў ахоўваць месцы, дзе жылі чужаземцы.

Паабедаўшы тут, мы вышлі на вуліцу.

Галоўны штаб Маскоўскага Савету зьмяшчаўся ў дварцы былога генэрал-губарнатара—вялікім белым будынку на Скобелеўскім пляцы. Ля дзьвярэй стаялі чырвонагвардыйцы і вартаўнікі. Узьняўшыся на верхні паверх, мы праз шэраг высокіх пакояў, якія былі ўвешаны абцягнутымі чырвонай матэрыяй портрэтамі ў залатых рамах, прайшлі ў прыгожую залю. Шум і размовы, якія перарываліся стукам швэйных машын, напаўнялі залю. Вялізарныя напалову разгорнутыя кавалкі чырвонай і чорнай матэрыі цягнуліся па паркету і па сталох, за якімі сядзела з паўсотні жанчын, якія кроілі і шылі сьцягі для пахаваньня загінуўшых у барацьбе за рэволюцыю. Абліччы жанчын былі грубымі і на іх ляжаў адбітак суму цяжкое барацьбы. Цяпер яны бесперапынку працавалі і ў шмат каго з іх вочы былі чырвоныя ад сьлёз... Ахвяры Чырвонай гвардыі былі досыць вялікія.



*У дні Кастрычніка.* Абарона уваходу у Смольны.

У кутку за пісьмовым сталом сядзеў Рогаў, інтэлігентнага выгляду барадаты чалавек, у акулярах і ў чорнай рабочай рубашцы.

Ён запрасіў нас прыняць удзел заўтра раніцой разам з Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам у пахавальнай процэсіі.

— Немагчыма навучыць чаму-б то ні было социялістых-рэволюцыянэраў і меншавікоў,—сказаў ён.—Згодніцтва стала ўжо ў іх прывычкай. Уявеце сабе, яны прапанавалі нам

наладзіць пахаваньне нашых гэрояў разам з пахаваньнем юнкераў!

Праз залю праходзіў чалавек у парванай салдацкай шынэлі. Твар яго мне паказаўся знаёмым. Я пазнаў у ім Мельчынскага, якога ведаў раней як гадзіннага майстра пад імем Жоржа Мельчара ў Байоне, штаце Нью-Джэрсі, у часе вялікай забастоўкі на прадпрыемствах Стандарт-Ойль. Цяпер ён быў сэкратаром маскоўскага саюзу мэталістых і камісарам Вайскова-Рэволюцыйнага Камітэту ў часе боек.

Ён намаляваў нам шэраг сцэнак з барацьбы. Вось халодны, сумны дзень. Ён стаіць на рагу Нікіцкай, навакол разрываюцца знарады. Кучка хлапчукоў—вулічных брадзягаў, якія раней прадавалі газэты, весела балакаюць, узбуджаныя здарэньнямі, як новай гульнёй. Вось агонь некалькі слабее, і яны, скарыстаўшы гэта, стараюцца перабегчы на другі бок вуліцы. Шмат якія з іх тут-жа кідаюцца забітымі, а іншыя бягуць далей, сьмяючыся і жартуючы адзін з другім.

Позна ўвечары я накіраваўся на дваранскі сход (дваранскі клюб), дзе бальшавікі абгаварвалі заяву Рыкава і іншых, якія вышлі да гэтага са складу Савету Народных Камісараў.

У пачатку памяшканьне напоўнілася інтэлігентамі, якія жылі блізка ад цэнтру гораду. Гаварыў Ногін, і аўдыторыя спачувала яму. Але гэта было толькі пакуль сабраліся рабочыя. Апошнія яго слухаць не хацелі.

Вось на трыбуне зьявіўся Бухарын, неўмалімы чалавек з жалезнай воляй і лёгікай, з галасам, які гучыць, як молат па кавадле; ён наносіў удар за ўдарам. Яго ўсе рабочыя слухалі з палаючымі вачыма.

Большасьцю галасоў была прынята рэзолюцыя, якая падтрымлівала ўсе пастановы Савету Народных Камісараў. Так сказала Масква сваё слова.

Позна ўночы пустымі вуліцамі мы прайшлі праз Іверскія вароты і вышлі на Чырвоны пляц, перад Крэмлем. Праз вялікі пляц да нас даляцеў стук кірак і рыдлёвак. Мы перайшлі на другі бок. Горы зямлі і каменьняў узвышаліся ля сьцяны. Узабраўшыся туды, мы пагледзелі ўніз і ўбачылі дзьве глыбокія ямы ад 10 да 15 футаў глыбіні і ў 50 ядраў даўжыні кожная: сотні рабочых і салдат пры асьвятленьні вялізарных кастроў агню працавалі там.



*У дні Кастрычніка.* Высадка маракоў крэйсэра «Авроры».

Малады студэнт зьвярнуўся да нас на нямецкай мове:

— Гэта братэрская магіла,—растлумачыў ён.—Заўтра мы паложым тут 500 рабочых, загінуўшых за справу рэволюцыі...

### Пахаваньне гэрояў

Ужо праз Іверскія вароты ліўся натоўп людзей, і вялізарны чырвоны пляц аказаўся зусім цесным для такой колькасьці народу.

Я заўважыў, што натоўп, праходзячы міма Іверскай часоўні, дзе праходзячыя раней заўсё-



Ул. І. Ленін.

ды хрысьціліся, як быццам нават і не заўважваў яе.

Мы прапіхнуліся праз цесназьбітую масу людзей і ўзабраліся на адну з зямляных насыпаў. Сабралася ўжо шмат народу.

Прайшоў вайсковы оркестр, іграючы Інтэрнацыянал; неспадзявана песьня была падхоплена ўсімі прысутнымі і яна разьнеслася, як хвалі, па людзкім моры.

З верхавіны Крамлёўскай сьцяны спускаліся на зямлю чырвоныя вялізарныя сьцягі, на якіх вялікімі літарамі было напісана: «Слава ахвярам пачатку сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі», «Няхай жыве братэрства народаў!»

Паказаліся ўжо рабочыя розных фабрык, прышоўшыя з далёкіх кварталаў гораду, нясучы ў трунах сваіх загінуўшых таварышоў.

Відаць было, як процэсіі праходзілі праз вароты са сьцягамі і цёмна-чырвонымі, падобнымі колеру крыві, трунамі, якія яны асьцярожна несьлі. Гэтыя труны былі проста і груба зьбіты з негаблёваных дошак і толькі пафарбаваны ў чырвоны колер. Высока несьлі іх на сваіх плячох мужчыны, вочы якіх былі поўнымі ад сьлёз, а жанчыны ішлі за імі або з палатнянымі, каменнымі абліччамі, або моцна плачучы.

Оркестр зайграў рэволюцыйны хаўтурны марш. І зноў вялізная маса народу запела, стаючы з непакрытай галавой, запела жудаснымі галасамі. Да гэтых процэсій рабочых далучыліся процэсіі салдат, якія таксама несьлі свае труны, эскадроны кавалерыі, артылерыйскія батарэі з гарматамі, перавітыя чырвоным і чорным. На іх сьцягах было напісана:

«Няхай жыве III Інтэрнацыянал».

Памалу падыходзяць да магілы процэсіі са сваімі трунамі; труны апускаюцца ў магілу... І гэтак адна за аднэй было апушчана 500 гэрояў, якія аддалі сваё жыцьцё за панаваньне рэволюцыі ў першыя дні паўстаньня ў Маскве.






Апавяданьне **Н. Беліна-Падгаецкага**

Малюнкі **Я. Кашкеля**

Шэрагі раскошных і багата прыбраных аўтомобіляй праносіліся віхрам па шырокай узьбярэжнай вуліцы. То там, то сям чуліся ў духотнай цёплай паветры то сумна-мэлёдычныя, то задорна-вясёлыя гукі вулічных гітарыстых. А вандроўныя гандляры з Алжыру або Тунісу ў дзіўных белых адзеньнях пішчом соваліся да кожнага са сваімі таварамі: мяхамі, каўрамі і іншай дробязьзю. Публіка, якая тут жыве, нічога ня робячы, на прыбыткі сваіх заводаў, фабрык, капальняў, дзе на іх працуюць тысячы няшчасных людзей,—разгульвае дзень і ноч па багатых парках, садох, тэатрах... А поруч з багатымі—розныя старцы, бяздомкі, сіроты...



*Пачалася дзікая сцэна катаваньня.*

Ён стаяў таксама ў ліку бяздомкаў і прыгнечаных, зьбіраючы крошкі са стала багатых. Стаяў ён кожны дзень на адным і тым самым месцы, там пад порцікам аднаго з багатых і вялічавых отэлей (дом гульбішч). Яго тонкія, загарэлыя на сонцы пальцы прыроднага артысты хутка бегалі па струнах старой, яшчэ бацькавай скрыпкі. Тысячы чароўных мэлёдый ліліся ў прастор, вядучы спрэчку з прыгожасьцю самога мора, калі яно дзіка і грозна-вялічава налятае на берагавыя скалы, б'ецца з шумам і грукатам і глуха адклікаецца ў вакольнай паветры.

— Як прыгожа іграе гэты хлопчык!—гаварылі ўсе ў белых адзеньнях прыгожа-прыбраныя, бесклапотныя і вечна сытыя і задаволеныя ўсім жанчыны. І яны ківалі ў такт музыцы сваімі маленькімі галоўкамі, расфарбаванымі, нібы лялькі, упіваючыся прыгожасьцю музыкі і сваім нікому непатрэбным жыцьцём. І вельмі рэдка хто-небудзь з іх, трацячы на дзень для сябе тысячы рублёў, успамінаў пра беднага музыку, які дае ім сваёй ігрой задавальненьне і кідаў недалікатна яму капейку—другую.

* * *

А ўвечары, калі ўсе сытыя і багатыя ішлі спаць, Францэска Марыні, наш маленькі музыка-самародак з ангельскай узьбярэжнай вуліцы гор. Ніццы, уклаўшы спаць сваю дзесяцёхгадовую маленькую сястрычку, выходзіў на апусьцелы бераг мора і тут ужо іграў толькі для сябе. Гукі сумныя і плачэўныя, як само жыцьцё прыгнечаных, ліліся ў ціхай і цёпла-вільготнай морскай паветры. Здавалася, тады Францэску, што ён адзін толькі, адзін тут, сярод

прыгожай прыроды. У такія ночы ўспаміналася яму яго мінулае—такое яшчэ кароткае, але ўжо багатае вялікімі мукамі, перасьледваньнямі і рознымі несправядлівасьцямі.

... Квітнеючы горад Флёрэнцыя... Бацькаўшчына лепшых мастакоў, скульптараў і поэтаў сярэднявякоўя. Бацька яго — рабочы макароннай фабрыкі, комуністы і стары член рабочага камітэту. Зарабляе зусім нязначныя грошы і то жыве вечна пад страхам быць выкінутым з дзяцьмі на вуліцу... А пасьля прышоў да ўлады ў краіне фашызм, жорсткі і грозны для ўсялякага праяўленьня думкі і пачуцьця аб волі, аб лепшым жыцьці для беднага рабочага люду.

І вось аднойчы ноччу банда маладых хуліганаў-фашыстых з лаянкай і крыкамі ўварвалася ў хату рабочага Марыні. Пачалася дзікая сцэна катаваньня, сцэна зьдзеку над чалавечай асобай, сцэна, якая атрымала правы грамадзянства за апошнія гады ў фашысцкай Італіі. Сілай прымушалі піць вялікімі шклянкамі рыцыну... зьдзекваліся над сухотнай ні ў чым невінаватай маткай. Пасьля гэтага, абсыпаўшы бацьку курыным пер'ем з выпатрашанай тутжа падушкі, выцягнулі на вуліцу і доўга яшчэ білі дубінкамі, прыгаварваючы: «Вось табе рэволюцыя! Вось табе комуністыя!».



*... і тут ужо іграў толькі для сябе.*

Ня толькі працаваць, але і жыць пасьля гэта нельга было ў Італіі. Вось чаму бацька яго і выехаў з усёй сям'ёй, уцёк у Францыю, як уцякалі і сотні тысяч іншых рабочых, якіх перасьледуе фашызм, зьдзекуецца з іх.

Бацька Франчэскі так і не паправіўся ад катаваньняў фашыстых, праз некаторы час па прыезьдзе ў Францыю ён памёр. За ім праз год памерла і матка, якая пакінула яшчэ, апрача Франчэскі, маленькую хваравітую дачку Джулію, пакінула адных-адзінюткіх, бяз грошай і без падтрыманьня.

І пачалося для Франчэскі цяжкае, горкае жыцьцё, поўнае вечных клопатаў за кавалак хлеба для сябе і для сваёй хворай сястрычкі, поўнае пастаянных шуканьняў хоць-бы якойнебудзь працы...

Вось так і кідаўся ён ад аднаго кутка ў другі, ад аднэй працы да другой, шукаючы заробкаў.

Іграючы на скрыпцы, ён мог хоць што-небудзь зарабіць ад багатай публікі... Заўсёды галодны і халодны, заўсёды поўны сумных думак аб заўтрашнім дні, не спадзяючыся на чыё-небудзь падтрыманьне...

Вось што ўспаміналася Франчэску ў гэту цёплую і прыгожую паўднёвую ноч на бязьлюдным беразе Сярэдняземнага мора. А гукі сумных журботных песень ліліся і ліліся, і паслухмяная скрыпка ўсё сьпявала і сьпявала жаласьліва і сардэчна, пакорна слухаючыся пальцаў маладога музыкі-самавучкі.

* * *

Ён ведаў яшчэ ад свайго бацькі, а пасьля і ад сваіх сяброў, што там далёка, за гэтым сінім морам, ёсьць краіна, дзе ўжо даўно няма буржуазіі, дзе народ, рабочыя і сяляне, узялі ўжо шмат гадоў таму назад усю ўладу ў свае рукі і дзе такі, як ён, здольны і таленавіты, заўсёды знойдзе падтрыманьне і можа вучыцца без перашкод любому мастацтву.

І гэтак захацелася яму быць у гэтай, блізкай яго думкам і сэрцу, краіне. Здаецца яму, што вось-вось паляцеў-бы туды, калі-б знайшоў на гэта хоць самую маленькую магчымасьць. Паляцеў-бы, каб былі крыльлі. А так прыходзіцца мірыцца з сваім жыцьцём, прыходзіцца так бясконца сядзець у краіне ўціску і эксплёатацыі і весяліць буржуазную публіку, якая

зьбіраецца сюды з усяго сьвету, каб праз гэга сяды-тады перапала сухая скарынка хлеба...

* * *

А праз некалькі дзён Франчэска больш не зьяўляўся па сваё звычайнае месца йграць. Ня прышоў ўвечары і на бераг мора, каб пайграць для самога сябе старадаўнія італьлянскія мэлёдыі, якія ён пераняў па слуху ад розных вучоных музыкаў. Яго маленькая сястрычка ціха скончыла сваё жыцьцё ў гэты дзень у аднэй з бальніц, куды яна сьпешна была перавезена гаспадыняй дому, дзе яны жылі, пасьля моцнага прыпадку крывахарканьня.

Франчэска цяпер ужо застаўся зусім адным на гэтым сьвеце, нікому непатрэбны, усімі забыты. Жыцьцё ўпарта і з нейкай злоснай настойлівасьц працягвала перасьледаваць яго. Удар за ўдарам, няшчасьце за няшчасьцем не давалі яму ні хвіліны супачынку і шчасьця.

— Сьмерць фашыстым! Прэч буржуазію! Няхай жыве рэволюцыя!— крычаў шматысячны натоўп рабочых дэмонстрантаў, набліжаючыся да італьлянскага консульства, каб выявіць гэтым свой протэст супроць уціску фашыстымі французаў, якія жывуць на франка-італьлянскай мяжы. Франчэска чуў гэтыя крыкі.Ён успомніў, якое няшчасьце і гора прынесьлі яму гэтыя фашыстыя, зьнішчыўшы і выгнаўшы яго сям'ю, і глухая кіпучая зьненавідзь да ўсяго гэтага капіталістычнага ладу загарэлася ў яго яшчэ дзіцячай душы.

Забыўшы ўсё на сьвеце, ён кінуўся ў натоўп дэмонстрантаў, прабіваючыся да першых шэрагаў, трасучы высока над галавой сваёй скрыпкай і глуха крычачы, разам з другімі: «сьмерць фашыстым! Няхай жыве рэволюцыя?».

* * *

Але «рэспубліканскі» французскі урад ня мог доўга цярпець гэтых супроць фашыстскіх выкрыкаў узбуранага працоўнага люду. Ён ня мог дапусьціць «бальшавіцкіх» беспарадкаў у сваёй «вольнай» краіне, дзе амаль што на кожным кроку красуецца лёзунг—свабода, роўнасьць і братэрства—і дзе рабочыя так-жа сама ня маюць правоў, як і ў любой іншай капіталістычнай дзяржаве. І гэты «рэспубліканскі» урад зараней ужо даў загад конным жандармам паліцэйскім і войску «ачысьціць» пляц і вуліцы ад дэмонстрантаў. І вось пачалося чарговае катаваньне. З усіх бакоў на бязбройных рабочых накінуліся атрады кавалерыі з шашкамі, усё зьмятаючы на сваім шляху... Стогны параненых, жаласныя выкрыкі раздаўленых дзяцей і жанчын насіліся над месцы дэмонстрацыі, якая ўся рассыпалася ва ўсе бакі...



*Штосьці цяжкое апусьцілася на галаву Франчэскі...*

Штосьці цяжкое і гострае апусьцілася на галаву маленькага Франчэскі. У дрызг разьбітая любімая скрыпка адлящела ў бок. На момант перад яго затуманеным поглядам прамільгнула сытае агіднае рыла жандарма-забойцы, мільганула і зьнікла для хлопчыка ў цемры вечнасьці.

Гэтак загінуў маленькі хлопчык музыка Франчэска Марыні.




З успамінаў **З. Лілінай**

# ЗАБАСТОЎКА ВУЧНЯЎ

Дваццаць шэсьць гадоў таму назад мне—я тады была вучаніцай 5-й клясы гімназіі—прышлося ў першы раз прыняць удзел у забастоўцы.

Забаставалі вучні-літоўцы ва ўсім горадзе Мітаве.

Прычына такая: забаранілі вучням маліцца на роднай мове.

Зараз для нас такая забастоўка здавалася-б дзіўнай, незразумелай, нават сьмешнай.

Рабоча-сялянская ўлада нікому не перашкаджае маліцца на якой каму хочацца мове. Яна толькі абвясьціла рэлігію прыватнай справай і вынесла яе з школы.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі ўсе вучні павінны былі ў школе маліцца.

Пры гэтым усе—і праваслаўныя, і каталікі, і лютараны, і магомэтаны, і яўрэі — усе аднолькава павінны былі маліцца па-расійску, па-праваслаўнаму.

Рабілася гэта так.

Звычайна раніцай, калі дзеці прыходзілі ў школу, клясныя выхавацелі і выхавацельніцы вадзілі ўсіх дзяцей на малітву ў агульную залю або ў царкву пры школе. Іншы раз малітва адбывалася перад урокам у клясе.

Без малітвы заняткі не пачыналіся.

За права маліцца на сваёй роднай мове і забаставалі ў Мітаве вучні і вучаніцы-літоўцы.

Вучні і вучаніцы згаварыліся не пайсьці на агульную малітву. І вось адзін раз раніцай выхавацелі чакаюць, каб вучні выйшлі на малітву. Ніхто ня йдзе. І ў мужчынскай, і ў жаночай гімназіі, і ў рэальнай школе—тая-ж самая гісторыя.

— Што такое? Бунт?

Выхавацелі і выхавацельніцы зараз-жа далажылі па начальству: бунт, забастоўка...

Школьнае начальства выклікала жандараў і паліцыю.

Нас, вучняў, хутка разьвялі па клясах, і літоўцы засталіся з паліцыяй, жандарамі і школьным начальствам.

Іх пачалі па аднаму дапрашваць: пыталіся, хто іх навучыў баставаць, хто з дарослых кіруе імі.

Дзеці трымалі сябе добра. Яны ня выдалі ніводнага чалавека і ўпарта патрабавалі аднаго — права маліцца на роднай мове.

Мы, з спачуваньня да сваіх таварышоў, жадаючы іх хоць чым-небудзь падтрымаць, падынялі такі шум у клясах, што ні аб якіх занятках у гэты дзень не магло быць і рэчы. Мы стукалі накрыўкамі скамеек, грукалі нагамі, крычалі.

У мужчынскай гімназіі вучні ў выглядзе протэсту супроць прыходу ў школу паліцыі і жандараў выбілі вокны.

Нас распусьцілі па хатах.

На наступны дзень тым, хто падтрымоўваў літоўцаў, зрабілі самую суровую вымову. Нам паставілі кепскія адзнакі па трыманьню.

Зусім інакш аднеслася школьнае начальства да нашых таварышоў-літоўцаў. Шмат каго з іх выключылі з школы, выдаўшы ім «воўчы білет».

Той, хто атрымоўваў «воўчы білет», на заўсёды траціў права вучыцца ў якой-бы там ні было школе і паступаць на службу. Усё яго жыцьцё рабілася нявыносным... На яго глядзелі, як на воўка.

Так пакараў іх царскі ўрад за іх спробу весьці барацьбу за волю, за права хоць-бы толькі маліцца на сваёй роднай мове.

Забастоўка дзяцей была зьнішчана.

Дзеці пацярпелі паражэньне.

Для нас, вучняў, гэта забастоўка паслужыла відавочным урокам.

Яна нам паказала, як царскі ўрад і яго чыноўнікі, у тым ліку і чыноўнікі школьныя, адносяцца да волі дзяцей, да волі грамадзян Расіі.

# СЬМЕРЦЬ У ТУРМЕ

Царскі ўрад забараняў школьнікам ня толькі маліцца, але, што больш важней, і вучыцца на роднай мове.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі ўсе дзеці, якія жылі ў Расіі—палякі, латышы, літоўцы, фіны, украінцы, беларусы, башкіры, зыране, татары, яўрэі, словам усе, на якой-бы мове яны не гаварылі, павінны былі ў школе вучыцца абавязкова на расійскай мове.

Толькі Савецкая ўлада дала волю кожнай нацыі вучыцца і гаварыць у школе на сваёй мове.

У Мітаве, дзе я вучылася ў школе, усё насельніцтва гораду і губэрніі (Курляндзкая) гаварылі або палатыску, або панямецку.

Парасійску, да і то кепска, з мешанінаю нямецкіх слоў, гаварылі толькі чыноўнікі і іх дзеці.

І вось у 1898 годзе быў выданы загад, каб усюды—ва ўсіх школах, ва ўсіх клясах—усё выкладалася парасійску.

Большасьць вучняў у Мітаве складалася з латышоў, якія прыяжджалі з акаляючых вёсак, і немцаў—жыхароў гораду.

Парасійску яны не гаварылі, а многія з іх нават не разумелі нічога парасійску.

Зразумела, што вывучаць усе школьныя прадметы парасійску яны не маглі.

А ім трэба было ўрокі адказваць парасійску і пісаць школьныя работы парасійску.

Вучні захваляваліся.

Парашылі весьці барацьбу. І вось пачалі складацца патайныя гурткі вучняў. У нашым гуртку, сярод іншых, былі 2 браты-латышы Робэрт і Вільгэльм. Абодвы яны былі вучнямі старэйшых клясаў гімназіі.

Юнакі былі сьвядомыя і актыўныя. Яны шмат чыталі, дапамагалі ў патрэбах сваім таварышом. У школе іх усе любілі.

З запалам узяліся яны за організацыю протэсту супроць прыгнечаньня вучняў.

Для нас усіх было ясна: ня ведаючы расійскае мовы, нельга вучыцца на гэтай мове, ды яшчэ ў старэйшых клясах.

Аб хваляваньні вучняў, аб протэсьце, які рыхтаваўся, пранюхала ўлада. За вучнямі пачалі сачыць паліцыя і жандармы.

Яны напалі на наш гурток, і вясною 1899 г. арыштавалі Вільгэльма і Робэрта.

Вільгэльм быў старэйшы з 2-х братоў. Яму было гадоў 16-17, Робэрту было гадоў 14-15.

У турме іх рассадзілі па аднаму ў асобныя пакоі. Вільгэльм трымаў сябе ў турме малайцом.

А Робэрт ня вытрымаў адзіноцтва, зажурыўся і пакончыў з сабой...

Яго знайшлі з перарэзанаю на руцэ жылаю. З яго выцекла кроў. Жылу ён сабе перарэзаў шклом, а каб дастаць шкло, ён пабіў акно ў турме.

Цяжкаю для нас была гэта ахвяра. Усе мы вельмі любілі гарачага, адзыўчывага Робэрта.

Вучні гораду Мітавы парашылі організаваць пахаваньне свайму ня ў час загінуўшаму таварышу.

Нам дапамаглі ў гэтым рабочыя організацыі Мітавы і Рыгі.

У дзень пахаваньня ніхто з вучняў не зьявіўся ў школу.

Труна была ўпрыгожана кветкамі, мы несьлі яе на руках.

За труной ішлі ўсе вучні ў сваіх сьвяточных формах гімназыстых і рэалістых.

Мы, вучаніцы, апранулі траурнае адзеньне.

Сьмерць Робэрта не прайшла дарэмна для нас, вучняў.

Папершае, усім нам, вучням, якія прымалі ўдзел у пахаваньні, далі розныя кары. Некаторых нават выключылі з школы.

Падругое, мы зразумелі, што за волю трэба ня толькі весьці барацьбу, але быць гатовымі і памерці за яе.






# Бунт Руфі

Чорнавокая, худая дзяўчынка гадоў 12-ці ўзьняла галаву ад работы і сказала: «Мама, можна пакінуць працу? Я ўчора зноў спазьнілася».

Яе матка працягвала лыгаць (шнураваць) пацеркі, якія кучай ляжалі перад ёй на стале.

— Добра, Руф. Твая матка зусім ня хоча, каб ты пазьнілася ў школу.

Ускочыўшы і пацалаваўшы матку, Руф вылецела з пакою, хутка зьбегла з 7-га паверху на вуліцу і сустрэлася з 2-м сваімі таварышкамі, Эллай і Мэммі, якія жылі ў суседнім квартале.

Мэммі крычала: «Падумай толькі! Мы хутка скончым школу! Вось добра!»

— А што ты на гэта скажаш? — спыніла Элла,—учора ўвечары я чула, як настаўнік казаў, што ў нас будуць госьці. Значыцца зноў, Руф, цябе прымусяць дэклямаваць.

— Ну, магчыма, не мяне выклічуць. Хто можа ведаць загадзя? Потым, калі яны ўзабраліся па ўсходах, Руф сказала:

— О, Мэммі, як я стамілася. З 6-ці гадзін раніцы мы з маткай працавалі, лыгалі пацеркі.

У клясе было вельмі ціха, калі яны ўвайшлі. Сеўшы на свае месца, Руф угледзела, што побач з настаўніцай сядзіць добра адзеты чалавек з маленькай дзяўчынкай. Уся ўвага Руфі накіравалася на дзяўчынку. Яна была аднаго з ёю ўзросту і вельмі падобна на яе: такія-ж цёмныя вочы і пакручастыя валасы. Але яна была больш пухлейшай ад Руфі, у яе былі поўныя і чырвоныя шчокі. На ёй было добрае шарсьцяное адзеньне і, гледзячы на яе, Руф міжвольна прыціснула локці да тулава, каб ня відаць было латак на рукавох. Угледзеўшы гэту дзяўчынку, якая ўважліва разглядвала ўсіх іх, Руф адчувала сябе такой маленькай, няшчаснай, зьняважанай...

Настаўніца, міс Фойлер, устала і паказала дзецям гасьцей.

— Дзеці. Усе вы павінны ганарыцца тым, што сёньня нашу школу наведаў гаспадзін Фрэнман з сваёй маленькай дачкой. Гаспадзін Фрэнман хоча сказаць вам некалькі слоў, і я прашу вас слухаць яго вельмі ўважліва, бо ён вялікі чалавек.

Гаспадзін Фрэнман, уладар фабрыкі, на якой працуюць бацька і старэйшы брат Руфі.

Фрэнман устаў і пачаў сваю прамову. Сьпярша ён сказаў усё тое, што звычайна гаварылі ўсе, хто наведваў школу: аб тым, як прыемна яму гутарыць з імі, якое гэта дабро для іх—дарэмна вучыцца ў школе, як яны павінны ганарыцца, адчуваючы сябе маленькімі грамадзянамі Злучаных Штатаў. Але пасьля тон яго прамовы стаў больш узьнятым. Ён пачаў гаварыць аб патрыятызьме, аб тым, якія перавагі дае Амэрыка сваім грамадзянам.

— У гэтай краіне,—гаварыў ён,—не павінна быць бедных. Усе, хто мае працу, хто шмат працуе—усе тыя багацеюць. Толькі людзі-гультаі, якія, як бальшавікі, хочуць атрымаць усё, не даючы нічога, ня могуць быць задаволены...

Руф дрыжэла ад хваляваньня. Як: яе бацька, які састарэўся раней часу ад працы, штодзенна ў 6 гадзін раніцы ходзячы на фабрыку з халодным сьнеданьнем, увечары такі зморany, што пасьля вячэры зразу кладзецца на пасьцель; яе брат, таксама заўсёды зморany і пануры; заўсёды працуючая матка (колькі ім усім прыходзіцца працаваць, каб толькі хапіла на яду!)—яны гультаі!?

Яна паглядзела на свае рукі, і сьлёзы паказаліся ў яе на вачох. Ён гаварыў аб ста-

раньні? У такім выпадку, яны павінны былі-б даўно зрабіцца міліянэрамі, а яна сама павінна быць такой-жа здароваю, ружоваю і добра адзетай, як гэтая дзяўчынка.

Яна глянула на сваіх таварышак. Ці адчуваюць яны тое, што яна? Няўжо яны вераць словам гэтага чалавека? Няўжо яны не разумеюць, што гэта іх бацькоў і братоў ён абазваў гультаямі, пражорамі? Не, трэба ім паказаць... Трэба, каб яны зразумелі. Яна падняла руку ў адзнаку таго, што яна хоча гаварыць, і настаўніца выклікала яе. Міс Фаўлер прапанавала ёй прадэклямаваць патрыотычны верш, які яна часта чытала на настаўніцкіх вечарох.

Яна вышла на сярэдзіну і зноў паглядзела на таварышак. Усе яны такія-ж бялявыя і худыя, як і яна, у старых, залатаных адзеньнях, у стаптаных чаравіках. Руф працягнула да іх рукі, усхвалявана закрычала:

— Мілыя, ня верце таму, што ён гаварыў. Але, мы бедныя, мы галадуем! Але нашы бацькі і маткі не гультаі. Яны заўсёды працуюць, нам самім таксама прыходзіцца працаваць і...

Ёй не далі кончыць. Злосна схваціла яе за руку настаўніца і штурханула на месца, а потым пачала пакорліва прасіць прабачэньня перад Фрэнманам.

Руф плакала, але яна была задаволена. Яна ўпэўніла другіх дзяцей, што ўладар заводу ім хлусіць.

І калі на перапынку дзеці абмяркоўвалі гэты ўчынак, яны парашылі, што Руф сказала праўду.

У гэты дзень Руф села за працу з добрым пачуцьцём. Яна ўгледзела вялікую мэту!

Яна зрабіла першы крок па шляху к клясавай рабочай самасьвядомасьці.

**Ліліан Вільсон.**

---

# Ліст з Кітаю

*(Атрыманы на мове эспэранто)*

Першае, што кінецца вам у вочы пры ўваходзе на кітайскую фабрыку—гэта кашалі з дзецьмі. Маткі ня маюць магчымасьці пакідаць іх дома, няма на каго і з кім, і бяруць з сабой на працу. Тут, на фабрыцы, у духаце, у вечна зьбітай дрэн ай паветры, галодныя і халодныя гадуюцца дзеці рабочых. Маткам нават забараняецца суцяшаць дзяцей, калі яны плачуць, а таксама і карміць іх: за гэта ім пагражае зьмяншэньне заработнай платы, а ў горшых выпадках і выключэньне з фабрыкі.

З пяцёх гадоў дзеці ўжо самастойна пачынаюць працаваць: знаходзіцца для іх таксама работа. Працуюць яны звычайна ад 12 да 16 гадзін на дзень, за што атрымліваюць па 10—15 кап. На фабрыку яны павінны прыходзіць раней за рабочых, бо на іх абавязках ляжыць прыбіраньне і ачыстка фабрыкі. Дзеці заўсёды не дасыпаюць. На працы яны часта ня вытрымліваюць бяссоньніцы і падаюць, за што даводзіцца атрымаць бізуноў ад прыганятых.

Бацькі самі ня могуць зарабіць і на сябе і на сваіх дзяцей, яны атрымліваюць за сваю працу зусім мізэрныя грошы—12—15 руб. на месяц. Такім чынам, дзеці, як толькі трошкі падрастуць, прымушаны дапамагаць бацьком сваёй працай, каб толькі за гэту працу можна было пражыць сям'і. Пры такіх умовах рабочыя і дзеці, зразумела, ня маюць магчымасьці ні вучыцца, ні праводзіць вольны час у клюбах, за кніжкай і інш.

Дрэннае жыцьцё ўсё больш і больш разьвівае ў асяродзьдзі рабочых рэволюцыйную думку і дзейнасьць. Гэтага руху рабочых ужо ніхто спыніць ня зможа.

**Сі-Ен-Гойц.**



# Тара-Сан

*(Апавяданьне з жыцьця японскіх дзяцей).*

Ці чулі вы калі-небудзь пра японскага хлопчыка, якога звалі тара-Сан?

Паяпонску Тара сан значыцца рыба.

Вам такое прозьвішча можа паказацца сьмешным, але ў Японіі часта даюць такія імены.

Калі Тара-Сану адбылося пятнаццаць год, ён зноў атрымаў новае імя. Калі ён паступіць на службу, яму зноў пераменяць імя. І, урэшце, калі ён памрэ яму дадуць зусім новае імя.

Але гэта яшчэ некалі будзе, а пакуль што ён—маленькі хлопчык Тара-Сан і працуе ён у багатага гандляра папяровымі ліхтарыкамі на Ліхтарнай вуліцы.

Цэлы дзень сядзіць ён у майстэрні. Перад ім



*У дні Кастрычніка.* Ахова габінэту т. Леніна у Смольным (Ленінград).

на зямлі—пэндзлікі і фарбы, а над галавой—гірлянда яскравых папяровых ліхтарыкаў.

Робяць ліхтарыкі хлопчыкі старэйшыя, а Тара-Сан размалёўвае іх. Ен працуе хутка і спрытна і гаспадару цяжка прычапіцца да яго.

На ўсёй Ліхтарнай вуліцы ніхто не размалёўвае ліхтарыкаў лепш за Тара-Сана.

Сягоньня ў Тара-Сана асабліва шмат працы. Ён размаляваў зранку трыццаць ліхтарыкаў і да вечара засталося размаляваць яшчэ дваццаць.

— Ты заўтра гуляеш?—запытаўся ў яго. адзін старэйшы таварыш.

— Так, калі гаспадар пусьціць мяне,—адказаў Тара-Сан і хуткім узмахам пэндзліка намаляваў на зялёным фоне прыгожы жоўты ўзор.

Гэта быў трыццаць други ліхтарык. Цяпер трыццаць трэці.

Толькі позна ўвечары Тара-Сан скончыў працу і пайшоў да гаспадара са сваёй просьбай.

— З якой рэчы я пушчу цябе?—сказаў гаспадар,—трэба працаваць, а не гультаяваць. Што ты будзеш рабіць цэлы дзень?

— Заўтра пяты дзень пятага месяца,—сьмела адказаў Тара-Сан.—Сьвята хлопчыкаў бывае толькі адзін раз у год.

Я буду гуляць і забаўляцца з другімі сваімі таварышамі.

Гаспадар нахмурыўся.

— Ну, добра ўжо! Талькі глядзі, каб табе не пакрышылі галаву. Яна ў цябе поўная добрых выдумак. Кармлю-ж я цябе не задарэмна...

На другую раніцу пагода была ясная, сонечная. Які сьвяточны выгляд меў горад! Перад кожным домам, дзе ёсьць хлопчыкі, паставілі высокія з бамбуку палкі: з гэтых палак узьвіваліся сьцягі—адзін, два, тры і болей, глядзячы па тым, колькі ў сям'і маецца хлопчыкаў.

Сьцягі маюць выгляд вялізарнай рыбы з разяўленым ротам. Калі вецер надзьме іх, яны шавеляцца, выгібліваюцца, як жывыя.

Яны бываюць розных колераў: сінія, чырвоныя, шэрыя і пакрытыя зьверху срабрыстай луской.

Усе яны адбіваюць падобнасьць на карпа, якога ў Японіі лічаць харобрай рыбай, таму што яна можа плысьці супроць самае шпаркае плыні вады.

Вось таму дзень пятага мая, у сьвята *О-сэку* над кожным домам, дзе ёсьць хлопчыкі узьвіваецца папяровы карп.

Ня дзіўна, што Тара-Сан ускочыў так рана ў гэты дзень.

Перш за ўсё, ён павінен быў пакупацца ў ванне, у якую кінулі некалькі пучкоў ірысу. У Японіі лічаць што ірыс дае сілу.

Вада ў ванне была вельмі гарачая. Вы-бы, напэўна, падумалі што вас хочуць зварыць жывымі. Але Тара-Сан весела плёхаўся ў вадзе. Японскія дзеці прывыклі да гарачай вады.

**СОВѢТЪ**

**НАРОДНЫХЪ КОМИССАРОВЪ.**

**Всероссійскій Съѣздъ Совѣтовъ Рабочихъ, Солдатскихъ и Крестьянскихъ Депутатовъ, постановляетъ:**

Образовать для управленія страной, впредь до созыва Учредительнаго Собранія, временное рабочее и крестьянское правительство, которое будетъ именоваться Совѣтомъ Народныхъ Комиссаровъ. Завѣдываніе отдѣльными отраслями государственной жизни поручается комиссіямъ, составъ которыхъ долженъ обезпечить проведеніе въ жизнь провозглашенной Съѣздомъ программы, въ тѣсномъ единеніи съ массовыми организаціями рабочихъ, работницъ, матросовъ, солдатъ, крестьянъ и служащихъ. Правительственная власть принадлежитъ коллегіи предсѣдателей этихъ комиссій, т. е. Совѣту Народныхъ Комиссаровъ.

Контроль надъ дѣятельностью народныхъ комиссаровъ и право смѣщенія ихъ принадлежитъ Всероссійскому Съѣзду Совѣтовъ Рабочихъ, Крестьянскихъ и Солдатскихъ Депутатовъ и его Центральн. Исп. Комитету.

Въ настоящій моментъ Совѣтъ Народныхъ Комиссаровъ составляется изъ слѣдующихъ лицъ:

Предсѣдатель Совѣта — **Владимиръ Ульяновъ (Ленинъ)**

Народный Комиссаръ по внутреннимъ дѣламъ — **А. И. Рыковъ;**

Земледѣлія — **В. П. Милютинъ;**

Труда — **А. Г. Шляпниковъ;**

По дѣламъ военнымъ и морскимъ — комитетъ въ составѣ: **В. А. Овсѣенко (Антоновъ), Н. В. Крыленко и Ф. М. Дыбенко;**

По дѣламъ Торговли и Промышленности — **Н. П. Ногинъ.**

Народнаго Просвѣщенія — **А. В. Луначарскій.**

Финансовъ — **И. И. Скворцовъ (Степановъ);**

По дѣламъ иностраннымъ — **Л. Д. Бронштейнъ (Троцкій);**

Юстиціи — **Г. И. Оппоковъ (Ломовъ).**

По дѣламъ продовольствія — **И. А. Теодоровичъ.**

Почтъ и телеграфовъ — **Н. П. Авиловъ (Глѣбовъ).**

Предсѣдатель по дѣламъ національностей — **І. В. Джугашвили (Сталинъ)**

Постъ Народнаго Комиссара по дѣламъ желѣзнодорожнымъ временно остается незамѣщеннымъ.

*У дні кастрычніка.* Дакрэт Зьезду Саветаў аб утварэньні Савету Народных Камісараў.

Пасьля ванны было гарачае сьняданьне: чырвоны рыс заместа звычайнага белага.

І раней чым, пайсьці на працу, бацька падараваў Тара-Сану маленькую шаблю з дрэва. Другіх падарункаў ня было, таму што бацькі Тара-Сана былі вельмі бедныя.

Для сьвята матка паставіла ў ганаровым кутку размалёваны збан з кветкамі ірысу і некалькі фарфаровых фігурак.

Пасьля сьняданьня Тара-Сан пабег на вуліцу са сваім папяровым зьмеем.

Нітку ад змея ён учора ўлажыў у сталярскі клей з тоўчаным шклом. Такія-ж зьмеі былі і ў другіх хлопчыкаў. Яны бегалі, стараючыся пераблытацца ніткамі і перарэзаць сваёй ніткай чужую. Упаўшы зьмей адыходзіў пераможцу.

А ўвечары была яшчэ лепшая гульня— Гэнджы і Хойке.

Хлопчыкі падзяліліся на дзьве партыі: адна была з белымі сьцягамі, а другая—з чырвонымі. Усе надзелі на галовы гліняныя гаршкі заместа шапак і ўзброіліся бамбукавымі палкамі.

Тара-Сан быў у партыі чырвоных. Яго абралі камандуючым, бо ў яго была з дзерава шабля.

Кожны стараўся разьбіць гаршчок на галаве свайго ворага. Пры гэтым пападалі, зразумела, ня толькі па гаршку. Тара-Сан атрымаў удар па правым воку. Аднак-жа ён яшчэ мацней размахваў сваёй шабляй і крычаў: Наперад! Наперад—пакуль у партыі Хойке не застанецца ніводнага цэлага гаршка. Так прайшоў дзень. А ўвечары ўся сям'я Тара-Сана сядзела на цыноўках, ды бацька апавядаў цудоўныя гісторыі пра былыя дні Японіі.

**Я. М. і М. Р.**

# УЗЬБЭКСКІЯ ШКОЛЬНІКІ

Калі прайсьці па крывых вузкіх махалях (вуліцах) старога гораду Ташкенту, то можна сустрэць вялікія малебныя дамы — мячэці. У гэтых дамох і знаходзяцца, звычайна, старыя ўзьбэкскія школы. Па сярэдзіне пакою стаяць тры лаўкі. На двух крайніх, сагнуўшыся над кніжкамі, з баязьлівым і пакорлівым выглядам, сядзяць худыя, хваравіта-жоўтыя постаці вучняў-узьбэкаў. На сярэдняй лаўцы сядзіць «сам» галава «школы», ён-жа і настаўнік. У руцэ лінейка («лапа») —сымболь страху і пагрозы для ўсіх вучняў, і злосныя, шнарачыя ва ўсе бакі вочы, якія пільна сочаць за тым, як ідзе вучэньне. Галоўны матар'ял іх вучэньня — малітвенная кніжка—каран. Яе трэба ведаць напамяць. І калі сярод вучняў знойдзецца хто-небудзь, што зблытае значэньне слоў альбо ня зразу адхіне патрэбную старонку, ён падлягае пабоям лінейкі...

Такая школа нічога ня мае агульнага з жыцьцём. Яна адарвана ад грамадзкасьці і выхоўвае невучаў, богабаязьлівых, аднабокіх людзей.

Бацькі, якія не даюць сваіх дзяцей у гэтыя школы, падлягаюць перасьледваньню і закляцьцям пад пагрозай «божай кары» і «бязьлітасьці ўсявышняга».

Так было шмат год.

. . . . . . . . . . . . . . . . .



*Група пролетарскіх дзяцей Фінляндыі. У версе на фотографіі надпіс „Пролетары ўсіх краёў злучайцеся". Гэта фотографія разам з іншымі атрымана ад рэдакцыі часопісі прол. дзяцей Фінляндыі. „Пуналіпу".*

Вялікія сьветлыя будынкі знарок пабудаваныя для школ з вясёлым шумам і дзіцячым сьмехам, зараз прыходзяць на зьмену гэтым адміраючым старым школам. Амаль кожная новая савецкая школа мае ў сябе піонэрскі атрад, які кіруе ўсім школьным грамадзкім жыцьцём.

Бацькі цяпер шмат дапамагаюць новай савецкай школе. Пры некаторых школах маюцца колектывы бацькоў, якія матар'яльна дапамагаюць школе. Школа замест карана мае географічныя карты, хэмічныя прылады, свае габінэты, дыяграмы на нацыянальнай мове.

Часта праводзяцца сходы бацькоў. Робяцца даклады аб выніках пасьпяховасьці вучняў, аб выхаваньні дзяцей, пасьля чаго адчыняюцца выстаўкі альбо пачынаецца тэатральная частка. На сцэну выходзяць піонэры і піонэркі-узьбэчкі. Сьпяваюць нацыянальныя песьні, расказваюць анэкдоты, гуляюць. Ня вытрымліваюць і старыя. На сцэну выходзіць стары «бабай»—бацька, і таксама, успамінаючы маладосьць, пад сьмех і прыказкі другіх бацькоў пачынае скакаць, пець і дэкламаваць.

З вучнямі робяцца прагулкі і экскурсіі на вытворчасьць, у розныя музэі.

Ува ўсёй гэтай рабоце не адстаюць і ад палітычных задач, якія высоўваюцца партыяй. Лёзунг «У наступленьне на паранджу» (пакрыўка твару) у першую чаргу сярод дзяцей стаў праводзіцца і растлумачвацца піонэрамі. Яшчэ да гэтага лёзунгу пачалі зьяўляцца мешаныя атрады (хлопчыкі і дзяўчаткі) і школы. За гэта вельмі строга ўшчувалі згодна старых законаў і рэлігійных звычаяў.

...Да 10-й гадавіны Кастрычніка адчыняюцца і закладваюцца новыя школы, рабфак і грамадзкія будынкі. Утвараюцца арцелі жанчын-узьбэчак і казачак, якія займаюцца выпрацоўкай каўроў і кашмы.

У плян навучаньня ва ўсіх школах уведзена абавязковае вывучэньне гісторыі Кастрычніка.

Так працуе і вучыцца новае пакаленьне ўзьбэкскай дзетвары.

**М. Дорын.**

# НАША ЖЫЦЬЦЁ




(Менск. Атрад № 21 Пры Архітэктурна-Дарожна-Будаўнічым Тэхнікуме).

## Набываем працоўныя навыкі.

Пасьля вялікіх спрэчак узімку гэтага году з адміністрацыяй тэхнікуму, апошняя дазволіла працаваць піонэрам у майстэрнях па нядзелях. У якасьці інструктароў былі прыцягнуты комсамольцы-сталяры.

Праца ў майстэрнях надзвычайна зацікавіла піонэраў, аб спазьненях або адсутнічаньнях і рэчы ня было, усе зьяўляліся сваячасова, слухаліся інструктараў. Малодшыя дзеці амаль з плачам дабіліся таго, каб іх пусьцілі працаваць. Такім чынам, працаваў увесь атрад. Хутка справа сталярных майстэрняў была перанесена ў Райком і была адчынена цэнтральная гарадзкая піонэрская майстэрня, дзе працавалі гарадзкія піонэры, у тым ліку і нашы.

Другім мерапрыемствам была організацыя гуртка ручное працы. У гурток уваходзілі ня толькі дзяўчаты, але і хлопцы. У якасьці кіраўніцы была прызначана дзяўчына з профшколы краўцоў. Бацькам вельмі спадабалася гэта справа. Піонэры навучыліся вышываць, папраўляць бялізну і г. д.

Важнае месца ў нашай працы займала набыцьцё сельска-гаспадарчых навыкаў. Пры тэхнікуме ёсьць сад і агарод, які ляжаў пустыром. Вясной гэтага году мы разьмеркавалі гэты агарод паміж зьвеньнямі, якія яго апрацавалі. Некаторыя парабілі клюмбы, некаторыя градкі і засеялі іх. На клюмбах былі высаджаны рознымі кветкамі альбо выбітыя з цэглы лёзунгі, значкі і г. д.

Праца гэта вельмі спадабалася піонэрам. Яны прыносілі з сабой расаду кветак, насеньне. Вялікі кавалак зямлі быў разьбіты на простакутнікі і засеяны канюшынай. Сад пасьля апрацоўкі піонэрамі меў вельмі прыгожы выгляд.

Вялікая праца была праароблена ў галіне набыцьця тэхнічных навыкаў таксама і дома. Былі вылучаны піонэры, якія агледзелі ў піонэраў дома, ці ёсьць у іх якія-небудзь струмэнты і ці скарыстоўваюцца яны. Аказалася, што струманты ёсьць, але мала скарыстоўваюцца. Пасьля гэтага ўсе струманты былі сабраны ў адно месца і цяпер яны скарыстоўваюцца.

Набыцьцё працоўных навыкаў займае важнае месца ў працы нашага атраду.

Г. С.

## Думкі бацькоў аб піонэрах добрыя.

Праца гэта была высунута самімі піонэрамі яшчэ зімой на адным з саветаў атраду. Пасьля гэтага быў склікан сход па пытаньню аб удзеле бацькоў у працы атраду. Да сходу добра падрыхтаваліся. Куток быў аздоблены, разьвесілі дыяграмы аб становішчы атраду, выпусьцілі насьценную газэту, разлажылі дзеньнікі пасобных звеньняў. Наогул усё было добра абсталявана і ўпрыгожана. Гэта ўсё вельмі зацікавіла бацькоў, кожная дробязь з жыцьця атраду была імі заўважана. Бацькоў здавальняла тое, што атрад паклікаў да сябе іх. Яны падрабязна абмалёўвалі трыманьне і працу піонэраў дома. На гэтым-жа сходзе бацькамі было прапанована завесьці вучотныя кніжкі, у якіх павінна быць адзначана ўся праца і трыманьне

піонэра. Гэтыя кніжкі складаюцца з наступных аддзелаў: 1) як піонэр вучыцца ў школе, 2) як трымае сябе дома, 3) як гігіенічна трымае сябе піонэр.

Пасьля сходу зразу-ж кніжкі былі заведзены і сувязь з бацькамі наладзілася. Кожны тыдзень бацькі павінны былі даваць тлумачэньні ў кніжках аб паводзінах піонэраў, а ў сваю чаргу маглі бачыць, як трымае сябе піонэр у атрадзе, чым ён нагружаны і як вучыцца ў школе. Калі бацькі адзначалі, што піонэр трымае сябе дрэнна, яго выклікалі на савет атраду і тым самым выпраўлялі яго.

Вялікае значэньне маюць кніжкі ў тым сэнсе, што выяўляюць думкі бацькоў аб піонэрорганізацыі наогул.

Актыўны ўдзел прынялі бацькі ў набыцьці гарнітараў піонэрам, як матар'яльна, так і ў працы. Акрамя гэтага, бацькі, па чарзе, удзельнічаюць у паседжаньнях савету атрада. Думкі бацькоў аб піонэрах добрыя. Але маткі цікавяцца працай атраду усё-ж такі больш чым бацькі.

**А. Шур.**

## Пазналі вайсковую справу.

Наш атрад ужо два гады трымае сувязь з 4-аю ротаю 6-га палка, над якой шэфствуе і комсамольская ячэйка. Для першага разу до нас прышоў быў чырвонаармеец, вылучаны ротаю для кіраўніцтва, і растлумачыў нам, якія задачы стаяць перад намі, г. ё. што і як прыдзецца нам зрабіць у сэнсе сувязі. Ён правёў з намі гутарку на тэму «Салдат царскай арміі і чырвонаармеец». Гэта гутарка вельмі зацікавіла піонэраў. З нашага боку мы растлумачылі ім, што такое піонэрорганізацыя, да чаго яна імкнецца, нашы законы і звычаі і наладзілі ў іх піонэрскі куток. Спачатку некаторыя чырвонаармейцы адносіліся да нас ня зусім прыхільна. Для гэтага мы пачалі часта да іх хадзіць, наладжвалі ў іх занятк і зьвеньняў, праводзілі гутаркі, гульні, пелі, чыталі жартлівыя апаваданьні, дапамагалі ў працы. Пасьля гэтага ўсе адносіліся да нас добра і прасілі нас, каб часьцей хадзілі. Для гэтага мы вылучылі зьвяно, якое ўсю сваю працу перанесла туды. Гэтае зьвяно злучала наш атрад з чырвонаармейцамі. Чыронаармейцы гэтак сама часта прыходзілі да нас на зборы і савет атраду. Некалькі разоў мы ўсім атрадам хадзілі да іх. Старыя чырвонаармейцы расказвалі гісторыю іх палка, як яны біліся ў бойках з ворагамі і інш. Падагульваючы працу сувязі, можна сказаць, што мы трохі пазналі вайсковую справу, азнаёміліся з жыцьцём і бытам чырвонаармейцаў. А гэтак сама, памагалі ў працы і ссябраваліся, як адна сям'я. У далейшым мы думаем ваенізаваць увесь атрад,—вылучаючы па чарзе ўсе зьвеньні для сувязі з Чырвонай арміяй.



**Р. Гурвіч.**

# ЧЫТАЧ!

## Наш лёзунг: „На кожнае зьвяно і групу школы—па аднаму экзэмпляру часопісі „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“.
## Тваё заданьне—выканаць яго.

## Перапісваемся з лінкорам „Парыская Камуна“.

У сакавіку месяцы г. г., калі на лінкор «Парыская Камуна» ехала комсамольская дэлегацыя, наш атрад, як і другія організацыі, захацеў паслаць маракам падарункі. Кожны піонэр прынёс які-небудзь падарунак. На адным кавалку мыла была напісана просьба да маракаў, каб пісалі аб сваім жыцьці. Праз некаторы час мы атрымалі адказ, дзе маракі ў кароткіх рысах апісалі сваё жыцьцё і ў сваю чаргу прасілі напісаць ім аб нашым жыцьці.

Так паміж намі завязалася таварыская перапіска. Улетку перапіска спынілася. Гэта тлумачыцца тым, што піонэры разьехаліся ў лягеры і на дачы. А гэтаксама, карабель «Парыская Камуна» паплыў ў гэты час у мора. Цяпер перапіска зноў наладжваецца.

**Піонэркі: Палер і Танхілевіч.**




## Комсамольцы ў атрадзе ёсьць.

Аднэй з важнейшых галін нашай працы зьяўляецца, падрыхтоўка і перадача ў комсамол. Вядзецца гэта праца такім шляхам: I і II зьвяно, якія складзены з старэйшых піонэраў, на сваіх занятках вывучаюць програму і статут КСМ і галоўныя падзеі з міжнароднага становішча. Часта на зборах атраду праводзяцца паліт-лётарэі, якія зварочваюць увагу піонэраў да газэт. Абодва старэйшыя зьвеньні наведваюць сходы яч. ЛКСМБ. У апошні час пры атрадзе організаваны паліт-гурток для старэйшых піонэраў. Дзякуючы такой штодзеннай падрыхтоўчай працы перарасткаў у атрадзе няма, дарослыя піонэры своечасова перадаюцца ў комсамол. Комсамольскі асяродак цяпер складаецца з 4 комсамольцаў, зацьверджаных райкомам і 3, яшчэ не зацьверджаных.

Комсамольцы ў працы сябе апраўдалі.

**Р. Фішар.**

## Культурная праца ўнутры атраду.

Культурная праца атраду грунтуецца, галоўным чынам, вакол насьценгазэты. Нядаўна над насьценгазэтай адбыўся суд. Да суда газэта выходзіла рэдка. Суд зрабілі на агульным зборы атраду. Выявілася шмат дрэнных бакоў у насьценгазэце. Суд сябе апраўдаў.

Пасьля гэтага недахопы былі выпраўлены. Газэта выпускаецца па пляну, артыкулы добра рэдагуюцца, надворны выгляд стаў шмат лепшым. Праца з газэтай і кніжкай таксама добра пастаўлена. Газэты і часопісі па магчымасьці выпісваюцца мясцкомам. Некаторыя газэты прачытваліся і абгаварваліся на зборах атраду. Выяўлена, як піонэры выпісваюць газэты і часопісі.

**І. Алесіна.**

## Лагер надаў бадзёрасьці і сьмеласьці.

Дзякуючы доўгай, падрыхтоўчай працы, лягер у гэтым годзе прайшоў з асаблівым посьпехам. Сродкаў сваіх на лагер у атрадзе ня было, прышлося піонэрам «пашавяліць мазгамі».

Першым чынам павесілі ў атрадзе «капілку», куды піонэры штодзенна ўкідалі свае капейкі на лагер. А аднаго разу на комсамольскім сходзе піонэры сталі ў дзьвярах і патрабавалі ахвяраваньняў на лагер ад кожнага комсамольца. Быў пушчаны па мясцовым камітэце падпісны ліст і, гэткім чынам, сабралі каля 15 рублёў. Прадалі архіў газэт і атрымалі 7 руб. Апрача гэтага ўсяго кожны піонэр, які хацеў ехаць у лагер, павінен быў унесьці 3 руб. Частку беднейшых піонэраў узяў на свой кошт болей «багаты» атрад пры заводзе «Мэталь». Вось і выехала ў лягер каля 20 чалавек.



Працу праводзілі, галоўным чынам, сярод саўхозкіх батракоў. Пробавалі працаваць у сельсавеце. Наладжвалі вечары самадзейнасьці, дзе прысутнічала шмат сялян. Праводзілі сумесныя гульні з вясковымі хлапцамі. Лагер навучыў жыць піонэраў калактыўна, надаў бадзёрасьці і сьвежасьці.

**І. Салавейчык.**

## Як ажывіць заняткі зьвяна?

На адным з саветаў атраду, калі давалі заданьне зьвеньням, узьнікла пытаньне, як ажывіць заняткі зьвяна.

Пасьля доўгіх спрэчак парашылі наладжваць зьвеньневыя вечары і даручылі правесьці гэта 1-му зьвяну.

Калі-ж на зборы атрада паведамілі аб гэтым рашэньні, дзеці вельмі ахвотна прыняліся за падрыхтоўку,

Цяжка было першы раз з'арганізаваць гэты вечар. Перш-на-перш патрэбна было найці памяшканьне для вечару і, з прычыны таго, што памяшканьня пры атрадзе ня было, рашылі зрабіць вечар дома, у аднэй піонэркі. На вечар былі запрошаны бацькі, сэкратар яч. ЛКСМБ і павадыр атраду. Увесь вечар складаўся з музыкальнай часткі, піонэрскіх песень, дэклямацый і г. д.

Такія вечары вельмі спадабаліся бацькам і піонэрам.

Цікава, што на вечарох бацькі прымалі актыўны ўдзел, давалі парады, як лепш праводзіць вечары і інш.

Справа з організацыяй вечароў у нас шырока разгарнулася. Вечары сябе апраўдалі.

**К. Каган.**

## Што мы будзем рабіць у далейшым.

Асноўныя моманты далейшай працы наступныя: атрад мае дагаварыцца з прафшколай будаўнікоў аб прымацаваньні к малярнаму і каменна-печнаму цэху для працы сваіх зьвенньяў.

Распачалі падрыхтоўку да Кастрычнікавай рэвалюцыі. Атрадам будзе праведзены самастойны ранішнік дзе будуць выступаць з калектыўнай дэклямацыяй, песьнямі, к гэтаму часу падрыхтуецца балетны гурток. К Кастрычніку павінен быць выкананы лёзунг: «ніводзін піонэр бяз гальштука!» Нядаўна адбыўся суд над піонэрам, які ня носіць гальштука, пасьля гэтага большасьць піонэраў ужо носяць яго. Дадзена новае заданьне зьвеньням аб ваенізацыі, якое закончыцца судам над старым салдатам, што будзе праведзен у 6-ай роце, 4-га палка.

**А. К—р.**

## К Кастрычніку—цэнтральны піонэрскі клюб.

*(М-ка Капыль, Меншчына)*

Да 10-ай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі піонэры м-ка Капыля ўрачыста адчыняюць Цэнтральны клюб.

Цяпер адбываецца збор сродкаў на абсталяваньне клюбу. Пакуль што дасталі толькі 10 р. (даў РВК).

Тры атрады падзялілі гэту працу,—клапоты па адшуканьню сродкаў між сабою. Спадзяемся, што апошняе ня зьявіцца асаблівай перашкодай.

Мы ўсё-ж такі спаткаем вялікае сьвята Кастрычніка ў сваім уласным клюбе.

**А. Н.**

## Ня гуляем.

*(М. Ляды, Аршанскай акр.)*

Наш атрад узяў заданьне—гэта распаўсюджваць МОПР'аўскую літаратуру.

Першае і другое зьвяно 4-га атрада імя «Чырвонай арміі» зрабілі лётарэю ў сямігодцы, на вечары. Астатнія звёны пайшлі на рынак, узяўшы з сабою 60 часопісяй і 60 бюляценяў і ўсё гэта распрадалі сярод сялянства Лядняншчыны.

Акрамя гэтага мы паставілі сіламі піонэраў платны вечар і выручылі каля 10 рублёў. Грошы здалі ў Райбюро ЮП для організацыі МОПР.

**Файтлін Ф.**

# Жыцьцё і праца дзет-калёніі.

*(Антанова, Капыльскага раёну, Меншчына)*

Калёнія налічвае 45 дзяцей. Усе дзеці аб'яднаны ў піонэрскі атрад. Заняткі атрада праводзіліся і праводзяцца рэгулярна. На занятках ставяцца і вырашаюцца пытаньні, зьвязаныя з жыцьцём усяе калёніі, справаздача розных камісій аб гаспадарцы калёніі і г. д. Між іншым, раней, калі ня было піонэр-атрада, дзеці такімі пытаньнямі ня цікавіліся.

Піонэры, акрамя заняткаў, у зімовы час у школе актыўна праводзілі атрадную работу: малявалі куткі зьвеньнявыя, збудавалі куткі: ленінскі і спартыўны.

З надыходам вясны праца ў калёніі яшчэ больш закіпела: піонэры самі гаспадарылі, яны баранавалі, самі рабілі грады, садзілі розныя караньплоды, даглядалі за імі, палолі, добра ачысьцілі і ахаялі сад... Але гэта яшчэ ня ўсё.

Піонэры парашылі паправіць бліжэйшыя да калёніі дарогі. Парашылі і—выканалі! Азнаёміўшыся з тым, якую ролю ў нашым жыцьці грае лес, піонэры наладзілі падчыстку 5 дзесяцін лесу.

Дзеці самі збудавалі спорт-пляцоўку, нарабілі самі спортыўных прыладаў, і займаюцца цяпер спортам. Выступленьні спорт-групы асабліва падабаюцца сялянам.

Самакіраваньне стаіць наналежнай вышыні: маюцца гурткі—гаспадарчы, які займаецца вывучэньнем дасягненьняў і недахопаў у сваёй гаспадарцы, малочная сэкцыя, санітарная і інш. Усе гэтые гурткі апраўдваюць сябе.

Маецца дзяткораўскі гурток, пры якім выпускаецца насьценная газэта, якая мае вялікую значнасьць з выхаваўчага боку, дзеці самі навучыліся заўважваць усе недахоны і адзначаць іх у свім «Сьветачы».

**Піонэр.**

# Трэба падцягнуцца

*(Мястэчка Сурайсы, Віцеб. акр.)*

Раней праца піонэратрадаў м. Сурайсы вялася даволі добра, піонэры цікавіліся працай і былі здаволены ёй.

Цяпер-жа яна заняпала. Па нядбайнасьці ячэйкі развальваюцца атрады. Піонэры, неахопленыя працай, цягаюцца каля клюба па мястэчку, як бяспрытульныя надаядаюць жыхаром і г. д.

Ва ўмовах мястэчка, дзе маецца памяшканьне і іншыя умовы для працы, працу атрадаў можна ажывіць, толькі трэба падцягнуцца комсамольскай ячэйцы і больш зьвярнуць увагі на піонэрпрацу і ня даць магчымасьці канчаткова разваліцца атрадам.

**Л. Чырвоны.**



# Ні то мурашкі, ні то пчолы.

Адзін падарожнік у Афрыцы адышоў ад месца свайго прыпынку і заблытаўся ў лесе. Праз некалькі гадзін бадзяньня ён ўбачыў вёску тубыльцаў і пасьпяшаўся да яе. Вёска складалася з дзесятка будак вышынёю з мэтраў 5, але аднясна ня шырокіх. Калі ён падышоў бліжэй, дык заўважыў, што вёска зусім бязьлюдная, а будынкі ня маюць ні вакон, ні дзьвярэй.

Што за дзіва такое?—падумаў падарожнік і пачаў стукацца ў бліжэйшую хату. Сьцены *зазьвінелі*, нібы яны былі пабудаваны з цэманту, але ніхто не адклікнуўся. Тады падарожнік ухапіў кол і прабіў дзірку ў сьцяне. У сярэдзіне зачарнелася пустата, а на месца жыхароў зьявілася некалькі белых, *сьляпых* казюлек, нібы жукоў, нібы мурашак велічынёю з добрую асу, толькі бяз крыльляў.

Яны паднялі свае сьляпыя галовы, прыслухаліся і зьніклі. А праз хвіліну, праз дзірку, таксама аднекуль зьнізу, на чалавека накінуліся мільёны гэтых стварэньняў і пачалі кусаць. Падарожнік ледзь уцёк ад іх.

Гэта былі *тэрміты*, якіх завуць (няправільна) мурашкамі гэтых краёў. Да мурашак яны падобны толькі сваімі будынкамі і спосабам жыцьця, але з другога боку маюць нешта агульнае і з пчоламі. Так, у іх ёсьць царыца, рабочыя, трутні, якія адны толькі маюць крыльля, ды сьляпыя салдаты.

Тыя, што першыя зьявіліся,—гэта салдаты. Ня гледзячы на сваю сьлепату, яны вельмі храбрыя і лютыя, маюць крэпкія клюшні і кідаюцца на ўсё, што ім трапіць па дарозе. Цікава параўняць іх з салдатамі-людзьмі ў буржуазных дзяржавах, дзе таксама ёсьць цары, царыцы і трутні. Гэтыя салдаты таксама ня бачаць, за каго яны змагаюцца, каго і супроць каго абараняюць.

Рабочыя ў некалькі разоў меней ад салдатаў. Яны працуюць пад аховай салдатаў, а ў часе небясьпекі ўцякаюць. На іх месца выбягае рэшта салдат, якія ўжо і вядуць барацьбу.

Але цікавей за ўсё самка-царыца. Як і ў пчолаў, яе абавязак несьці яечкі. Спачатку яна нічым не адрозьніваецца ад звычайных рабочых тэрмітаў, а калі яе „абяруць“ у царыцы і пасадзяць у „царскія палацы“, тады яна пачынае расьці і вырастае настолькі, што праз сваю велічыню ўжо ніколі ня можа вылезьці на сьвет. Уласна кажучы, расьце толькі яе жывот. А цяпер падрыхтуйцеся пачуць нешта нязвычайнае:

*Жывот яе робіцца ў 20—30 тысяч разоў большым, чымся спачатку.* Нездарма яна адкладае па 20.000 яек у дзень.



*Будынкі тэрмітаў.*

Зразумела, яна сама нічога ня можа зрабіць, а толькі ляжыць, як калода. Рабочыя кормяць, даглядаюць яе ўвесь час, падбіраюць яечкі і адносяць іх у асобныя памяшканьні.

Будынкі тэрмітаў, маючы ў вышыню 4--5 мэтраў, ідуць яшчэ ў глыбіню мэтраў на 8. Разам гэта будзе складаць

добры гарадзкі 2-х павярховы дом з дахам і фундамантам. Каб чалавек захацеў пабудаваць такі самы дом адносна свайго росту, ён павінен быў-бы пабудаваць будынак блізка што 4 кілёмэтры ў вышыню.

У Гішпаніі ёсьць горад (Валенсія), якому пагражае небяспека праваліцца скрозь зямлю праз тое, што пад ім знаходзяцца былыя будынкі тэрмітаў.

Ядуць яны галоўным чынам дрэвы. Пры гэтым абявязкова выгрызаюць толькі сярэдзіну, а знадворку пакідаюць усё ў цэласьці. Адзін вучоны (Форбс), жывучы ў Індыі, пакінуў на два тыдні сваю кватэру. Вярнуўшыся да дому, ён заўважыў, што усё абсталяваньне нейкае шэрае, нібы ад пылу. Калі ён дакрануўся да мэблі, ўся яна рассыпалася ў труху. Нават партрэты на сьцяне рассыпаліся, але шкло было прыклеена да сьцяны. Вось што могуць парабіць тэрміты. У другога падарожніка ў Афрыцы тэрміты за ноч зьелі ўсё адзеньне, але самога яго не кранулі. У Эгіпце быў выпадак, калі тэрміты прагрызьлі ход у цэмантнай падлозе. **Я. М.**



*Самка—царыца.*

# Што чытаць

**Б. Кельлерман—ШАХТА „ДЗЯДЗЬКА ТОМ“.** БДВ, Цана 35 кап.

У гэтым апавяданьні яскрава ў жывых вобразах даюцца малюнкі з жыцьця гарнякоў. Тут перад чытачом разгортваецца самая сапраўдная шахта, грозная і жахлівая для працы, тут-жа часткова перададзена і тэхніка вугольнае прамысловасьці. Самае апавяданьне разгортваецца вакол хлопчыка-гарняка Мака. Яшчэ васьмі год ад роду бацька,—бедны гарняк—аддае свайго сына Мака на працу ў шахту «Дзядзька Том». У гэтай шахце працуе таксама і брат Мака—Фрэд. Мак спачатку працуе па адборцы каменьня ад вугалю, а пасьля ў дзесяць гадоў становіцца канюхом і займаецца перавозкай ваганэтак з галерэй і калідораў у шахту, каб пасьля іх можна было накіраваць уверх. Праца цяжкая, сумная... Жывое душы ня ўбачыш цэлы дзень. Усе рабочыя разьмешчаны па сваіх закануркях, працуюць там, сякуць па кавалачку каменны вугаль...

Але гэткае, яшчэ параўнаўча спакойнае, жыцьцё перарываецца страшэннай навалай,—шахта абвальваецца ад узрыву вугольнага газу... Мак застаецца адарваным ад выйсьця... Усіх рабочых замяло вуглем і каменьнямі...

Урэшце, Маку ўсё-ж такі ўдаецца выратавацца. А бацька яго з братам так і засталіся засыпанымі...

Зьмест вельмі цікавы і сьвежы. Напісана апавяданьне досыць жыва, вобразна. Некаторыя момaнты цалкам захапляюць чытача. Маюцца, праўда, шмат якія недакладнасьці ў перакладзе, якія парушаюць сэнс. Напр., «Ён быў зусім зачынены» (стар. 15). Гэта, калі гаворыцца аб тым, што выйсьце для Мака было засыпана, або «зыскоўны занятак» (стар. 6) у сэнсе рызыкоўны, непажаданы і шмат іншых недакладных выразаў і слоў.

Аднак некаторыя недарэчнасьці ў стылі нічуць не парушаюць агульную вартасьць і каштоўнасьць кніжкі. Асабліва прыгожа аздоблена кніжка малюнкамі, якія выканаў мастак **Г. Змудзінскі**. Кніжку Шахта «Дзядзька Том» з прыемнасьцю спаткаюць нашыя юныя чытачы, яна кожнага заахвоціць, зацікавіць сабой.

**А. Ч.**

ЦАНА 12 кап.




## Загадкі і задачы

Які горад Беларусі, калі адняць ад яго літару «Н» будзе «пішчаць»?

**А. Суднїковіч.**

---

Юзік быў вінен Міхасю 3 кап., Міхась быў вінен Кастусю 2 кап., а Кастусь быў вінен Юзіку 2 кап. Вось аднаго разу яны ўтрох ішлі па вуліцы і Юзік знайшоў адну капейку. Зараз-жа з гэтай капейкай яны ўсе трое разьлічыліся між сабой начыста. Як яны гэта зрабілі?

---

У кніжнай шафе стаялі ў парадку тры кнігі: І том у 420 старонак, ІІ т.—680 і ІІІ т.—400 стар. І вось аднаго разу, калі гаспадар паглядзеў кнігі, ён заўважыў, што кніжны чарвяк прагрыз кнігі ад першай стар. першага тому, да астатняй старонкі трэцяга тому. Колькі ўсяго старонак прагрыз чарвяк?

**Тодар.**

Дадзены простакутнік, трэба разьдзяліць на чатыры роўныя часткі так, каб у кожнай частцы было па дзьве кропкі.



**(В. Суднік).**

### На беразе ракі

На беразе Сьвіслачы стаяць два піонэры і дзьве піонэркі: Рыгор, Пятрусь, Ганка і Мар'я. Ім патрэбна перабрацца на другі бераг. На беразе ляжыць маленькі човен, які вытрымлівае аднаго піонэра ці дзьвюх піонэрак.

Як ім перабрацца на той бераг?

**(Тодар).**

**Піонэры і вучні!**

**Вы павінны пашыраць сваю часопіс так, каб аб ёй ведалі і чыталі яе ўсе дзеці працоўных нашай краіны.**




Менск. 1-ая друкарня. Заказ № 161. У ліку—2850. Галоўлітбел № 26541.